№ 30 (1843)

Чацвер, 19 лютага 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -13...-11, сонечна, уначы — -20...-18, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -7...-5, снег, уначы — -12...-10, без ападкаў; у Гродне ўдзень — -11...-9, сонечна, уначы — -18...-16, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -16...-14, уначы — -24...-22, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -9...-7, снег, уначы — -17...-15, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -14...-12, уначы — -20...-18, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



# ЗВАРОТ
## да выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў Беларусі

З 1995 года ў нашай краіне — Рэспубліцы Беларусь — зноў выцясняецца беларуская мова з адукацыйнай сферы. Так, у Гродна ў 1994—1995 гг. да 75% першакласнікаў пачыналі вучыцца па-беларуску, а сёння іх 0%. Летась быў зачынены Нацыянальны гуманітарны ліцэй у Мінску — прэстыжная навучальная ўстанова, у якой выкладанне вялося поўнасцю на беларускай мове. У ВНУ спынена афіцыйная падтрымка выкладчыкаў, якія жадалі б выкладаць па-беларуску, а ў некаторых выпадкахназіраецца адміністрацыйны ціск на іх.

Сёння нацыянальная мова беларусаў таксама выдаляецца з інфармацыйнай прасторы, з адміністратыўных органаў, іншых сфер. Мінская адміністрацыя пазбаўляе рэспубліканскую арганізацыю ТБМ арандуемага памяшкання.

Між тым агульнавядома, што мова разам з іншымі нацыянальнымі каштоўнасцямі (гісторыяй уласнага народа, нацыянальнымі традыцыямі і фальклорам, нацыянальным светапоглядам і сімваламі, іншымі праявамі нацыянальнай культуры) мае ключавое значэнне ў арганізацыі агульнаграмадскага жыцця. Гэтыя фактары — і мова сярод іх найважнейшы — ёсць аснова для таго, каб кожны грамадзянін, які жыве на зямлі сваіх продкаў, пачуваўся яе паўнавартасным гаспадаром. Дадзеныя каштоўнасці ствараюць сістэму міжасабовых сувязяў, у якой адбываецца яднанне ўсіх грамадзян краіны ў цэласную супольнасць.

І пачуццё гаспадара сваёй зямлі, і нябачная атмасфера культурных сувязяў у грамадстве не дазваляюць прадстаўнікам улады стаць па-над ім, з'яўляюцца ключавымі ўмовамі кантролю над уладай і станаўлення сапраўды дэмакратычнай сістэмы ў краіне. Грамадства, аб'яднанае сукупнасцю нацыянальных каштоўнасцяў, прымушае дзяржаўных кіраўнікоў рэалізоўваць менавіта яго аб'ектыўныя інтарэсы. У выніку ствараюцца ўмовы, калі кожны грамадзянін паасобку і ўсё грамадства ў цэлым набываюць магчымасці максімальнага раскрыцця ўласнага патэнцыялу, а з'яднанае, цэласнае грамадства, у сваю чаргу, становіцца надзейнай апорай дэмакратычнай улады. Вось чаму ва ўсіх краінах — і вакол Беларусі, і далёка ад яе — пытанне нацыянальнай мовы (як толькі слабеў імперскі ціск звонку) заўсёды вырашалася кардынальна і на яе карысць.

Усё гэта азначае, што вяртанне беларускай мове адпаведнага ёй статусу ёсць толькі пытанне часу. Гэта — няўхільны імператыў, адмаўляць які могуць толькі недалёкія людзі альбо тыя, хто, разбураючы і дэмаралізуючы наша грамадства, разлічваюць абараніць свой сацыяпаразітычны інтарэс... Сённяшні ж стан беларускай мовы ў нашым грамадстве ў цэлым і ў адукацыйнай сістэме ў прыватнасці — дадатковы доказ неадпаведнасці ўмоў жыцця беларускага грамадства сучасным цывілізацыйным нормам.

Ключавое значэнне для паспяховай беларусізацыі ўсёй сістэмы адукацыі мела і будзе мець роля нашай мовы **ў вышэйшых** навучальных установах. Зараз у трох універсітэтах Гродна ёсць каля трыццаці выкладчыкаў (не ўлічваючы выкладчыкаў беларусазнаўчых кафедраў), якія працуюць па-беларуску. Як паказвае досвед, наша мова ва ўсіх выпадках з'яўляецца выдатнай прыладай для забеспячэння высокага ўзроўню выкладання. Прыемна, што патрыятычныя памкненні беларускамоўных выкладчыкаў сустракаюцца з выразнай прыхільнасцю пераважнай большасці студэнтаў. Наша моладзь дастаткова добра ўсведамляе значэнне высокаўзроўневых грамадскіх каштоўнасцяў...

**Заклікаем** выкладчыкаў усіх ВНУ Беларусі актыўней выкарыстоўваць нашу мову ва ўсіх формах практычнай выкладчыцкай і навуковай дзейнасці.

Чытайце лекцыі і вядзіце заняткі па-беларуску!

Пішыце навучальныя і метадычныя дапаможнікі, планы і справаздачы па-беларуску!

Афармляйце дысертацыі на беларускай мове!

Не абавязкова пераходзіць на нашу мову адразу і ў поўным аб'ёме. Зрабіце за год хоць бы крок: падрыхтуйце адну лекцыю, напішыце адзін метадычны дапаможнік, правядзіце частку заняткаў па-беларуску — і вы ўжо зробіце вялікі ўнёсак у нашу агульную справу.

А ў наступным годзе зрабіце чарговыя 2-3 крокі. І так далей...

**Зварот прыняты агульным сходам Гродзенскага гарадскога грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай вышэйшай школы".**

БІЯТЛОН: ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

# Залаты старт

*Учора раніцай стартаваў чэмпіянат Еўропы па біятлоне. Першымі на старт выйшлі мужчыны, каб вызначыць мацнейшага ў гонцы на 10 кіламетраў. Пасля не вельмі ўдалага выступлення на чэмпіянаце свету ў нямецкім Оберхофе беларускія "страляючыя лыжнікі" жадалі рэабілітавацца. І гэта ім удалося. Залаты медаль заваяваў наш суайчыннік **Аляксандр Сыман** (на здымку), а на трэцюю прыступку п'едэсталу ўзышоў яшчэ адзін беларус — **Уладзімір Драчоў**. Сярэбраная ўзнагарода ў паляка Сікоры.*

*Яшчэ два беларусы фінішавалі далёка ад "медальнай зоны". Алег Рыжанкоў размясціўся на 16-м месцы, а Аляксей Айдараў на 26-м.*

*За некалькі хвілін да падпісання нумара ў друк стала вядома, што залатую ўзнагароду ў спрынтэрскай гонцы на 7,5 кіламетра заваявала беларуская біятланістка **Алена Зубрылава.***

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота ByMedia.net**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Когда государство перестанет выворачивать карманы людей?

**Борис ЖЕЛИБА,**
**профессор, доктор экономических наук**

Проблема оплаты услуг жилищно-коммунального хозяйства является для населения Беларуси давно наболевшей. В 2002 и 2003 годах многие люди пережили настоящий шок в связи с государственной кампанией по резкому повышению тарифов. Без преувеличения, пенсионеры стали отдавать почти всю свою пенсию на оплату за жилье. Так называемая жилищно-коммунальная реформа свелась лишь к выворачиванию уже полупустых карманов жителей. Качество же жилищно-коммунальных услуг в лучшем случае нисколько не повысилось, а в худшем — даже снизилось.

Действительно, принципы рыночной экономики требуют, чтобы каждый платил сполна, в том числе и за услуги ЖКХ. С советских времен большую часть квартплаты и стоимости услуг, оказываемых населению, оплачивали юридические лица за счет повышенных для них тарифов. Это получило название "перекрестное субсидирование". Чтобы от него уйти, необходимо создать соответствующие экономические условия. Нынешняя власть их не создала. Основные причины, препятствующие решению этой проблемы, заключаются в следующем:

— низкий уровень зарплат и пенсий, не позволяющий не только в полной мере оплачивать жилищно-коммунальные услуги, но и ставящий малооплачиваемые слои населения на грань выживания, хотя сегодня покрываются лишь 50% коммунальных издержек. В каждом районе Минска насчитываются десятки тысяч семей, которые не в состоянии своевременно платить за жилье и услуги, а то и вовсе числятся как "злостные неплательщики";

— неспособность государства в полной мере субсидировать из бюджета недоплату жителями услуг ЖКХ;

— отсутствие в этой сфере какой-либо конкуренции для предприятий, оказывающих жилищно-коммунальные услуги, а монополизм ведет к постоянному росту затратности деятельности этих предприятий (ЖЭСов, ЖРЭО и т.п.). Как показала проверка структур жилищно-коммунального хозяйства в 2003 г., зарплата отдельных их руководителей и главных бухгалтеров с лихвой превышала 1 млн. рублей. Вот вам и затраты!

Как отмечается в материалах Фонда содействия совершенствованию общественных отношений "Экон" и Фонда содействия локальному развитию, квартиросъемщики жилых домов, обслуживаемых ЖЭСами, ежемесячно платят "автоматические" взносы, а значит, в том числе и за неоказанные услуги ЖКХ. Не имея при этом процедурного права на контроль за расходованием своих денег.

К примеру, договор с жителями об ответственности за ремонт дома никто не заключает. Житель оказался отстраненным от контроля услуги. ЖЭС является заказчиком и исполнителем в одном лице. Квартиросъемщики ежемесячно исправно платят за капитальный ремонт дома. Теперь вспомните год постройки своего дома и сколько и каких капремонтов в нем проведено. Они должны проводиться через 5—10 лет. Согласно статистическим данным, на капитальный ремонт жилья в стране ежегодно тратится около 20 млн. долларов в эквиваленте. Но уже накопленный недоремонт жилых домов, которым свыше 25 лет, составляет порядка 3,5 — 4 млрд. долларов.

При таком уровне нашей жизни необходимо 200 лет, чтобы отремонтировать то, что требуется сделать уже сегодня. Если учесть старение существующего жилого фонда, то с ремонтом уложимся в 700 лет! Поэтому и ложится капитальный ремонт домов, квартир на плечи жильцов, которые за него все равно платят государству. Но как им поменять лифт, который больше не работает, чем работает, отслужив четыре раза положенный срок?

Состояние многих домов общеизвестно и наглядно: подъезды загажены, двери разломаны, стекла выбиты, крыши текут, разбиты малые архитектурные формы, детские площадки во дворах, изношены инженерные коммуникации. В аварийном состоянии находится каждый третий метр теплосети. Тепловые потери в системах наружного теплоснабжения составляют около 25%. Все, естественно, оплачивается потребителями.

Как показывают последние события, время дешевого газа для Беларуси неизбежно подошло к концу. Нового скачка цен на услуги по нагреву воды и отоплению население просто не выдержит. Заверениям правительства, что тарифы на жилищно-коммунальные услуги для населения в 2004 г. вырастут не более, чем на 4-5 долларов, никто не верит. Оплата жильцами расхода воды, газа осуществляется по завышенным нормам, счетчики стоят в редких квартирах. С другой стороны, такое положение никак не стимулирует квартиросъемщиков к экономии ресурсов. Ведь Минск не столь уж и давно полностью обеспечивался самой вкусной в Советском Союзе артезианской питьевой водой. В местных бюджетах нет денег для того, чтобы приобрести счетчики и поставить их в каждую квартиру. ЖЭСы не стремятся это делать: им невыгодно. Если потечет кран или неисправен туалетный бачок, сантехник свою работу никогда бесплатно не делает, хотя мы и платим за какое-то техобслуживание.

Ясно, что руководство страны идет курсом перекладывания всей тяжести растущих затрат на жилищно-коммунальные услуги на население. Оно не в состоянии обеспечить соответствующий рост доходов трудящихся и пенсий. Более того, собирается вводить дополнительные налоги и поднимать существующие на недвижимость, на землю.

Какие же меры по улучшению жилищных условий горожан необходимо провести?

Росту тарифов на услуги ЖКХ должен предшествовать соответствующий рост зарплаты и пенсий, как это и делается, например, в странах Балтии. **Необходимо ликвидировать монополизм служб ЖКХ, открыв данный рынок для частных организаций, а также путем создания в государственных жилых домах совместных домовладений, работающих на коммерческой основе.** В Германии, например, один человек обслуживает коммунальные потребности целого многоквартирного дома, являясь и дворником, и сантехником, и слесарем. И ему платят жильцы. Следует обязать жилищные службы компенсировать жильцам недогрев отопительных батарей, горячей воды, нести штрафные санкции за протечки кровли, стен и т.д., оснастить квартиры измерительной аппаратурой.

Пока же мы, доставая из почтового ящика очередной зимний счет-квитанцию, с грустью констатируем, что на жизнь от зарплаты остается все меньше и меньше, а кому и вообще ничего не остается. И чтобы попасть в свою любовно отделанную квартирку, надо каждый раз зайти в страшный темный подъезд дома. И не дай Бог к вам приедут в гости приличные иностранцы. Хоть глаза им завязывай и нос закрывай.



## У беспрацоўя — жаночы твар

Большасць беспрацоўных у Беларусі — жанчыны. Па стане на 1 студзеня яны складалі 66 працэнтаў тых, хто застаўся без працы. Гэта на 3,2 працэнта болей, чым летась на такі ж час. Толькі ў студзені ў дзяржаўную службу занятасці звярнулася звыш 86,6 тысячы жанчын. Найбольшая колькасць з іх — гамяльчанкі. У гэтай вобласці ў студзені згубілі працу 15, 6 тысячы жанчын.

**Ігар ВАСІЛЬЧУК.**

## Лікёрагарэлачны — на таргі

Таргі па продажу вытворчага комплексу лагойскага ААТ "Лікёрагарэлачны завод" не адбыліся.

Выстаўляў гэтае прадпрыемства на таргі за ўзніклую запазычанасць Вышэйшы Гаспадарчы суд Беларусі. Стартавая цана завода, які складаецца з трох будынкаў, а таксама абсталявання для вырабу і разліву спіртных напояў, крыху перавышала 463 мільёны рублёў. Прыкладна такой жа была сума запазычанасці завода.

Аднак, як паведамілі БелаПАН у Вышэйшым Гаспадарчым судзе, на таргі не было пададзена ніводнай заяўкі. Цяпер суду трэба будзе вызначыць тэрміны правядзення паўторнага аўкцыёна.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы замежных валют

*На 19 лютага Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2154,00 рубля
1 еўра — 2777,69
1 расійскі рубель — 75,62
1 аўстралійскі долар — 1721,58
1 балгарскі леў — 1420,19
1 дацкая крона — 372,74
1 СДР — 3256,16
1 ісландская крона — 32,00
10 японскіх іен — 203,95
1 казахскі тэнге — 15,51
1 канадскі долар — 1643,15
1 кувейцкі дынар — 7307,89
1 кыргызскі сом — 49,60
1 латвійскі лат — 4113,04
1 літоўскі літ — 804,35
1 малдаўскі лей — 171,70
1 нарвежская крона — 316,22
1 польскі злоты — 568,47
1 сінгапурскі долар — 1286,74
10.000 турэцкіх лір — 16,26
1 украінская грыўна — 403,94
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 4121,89
1 чэшская крона — 84,82
1 шведская крона — 302,27
1 швейцарскі франк — 1764,63
1 эстонская крона — 177,50

## І ў другім квартале — будзем разам!

Нагадваем: ідзе падпіска на II квартал 2004 года.

Каб не застацца без "Народнай волі", многім чытачам трэба працягнуць падпіску.

**Не спазніцеся!**

# Пиар — просто конфетка!

**Кирилл ПОЗНЯК**

Аналитики отмечают, что у белорусской оппозиции в дефиците оригинальный, а главное, качественный и эффективный пиар. Мол, их политтехнологии почти не работают. Но на днях автор этих строк был просто поражен. В одном из торговых ларьков на столичной улице Немига бросились в глаза конфеты-леденцы, на которых крупно красовалось название "5+" (смотри фото). То бишь бренд оппозиционной Народной коалиции "Пятерка плюс".

Путь к сердцу избирателей лежит через их рецепторы и желудок! Хороший ход в условиях, когда оппозиция не имеет доступа к государственным информационным ресурсам. Ненавязчивый такой пиар: публика покупает леденцы "5+" и ассоциирует их с коалицией. До парламентских выборов осенью 2004 года эти политические конфеты смогут попробовать немало белорусов. Да, конфеты — это куда пиарнее, чем всякие там наклейки.

На обертках конфет "5+" написано, что они сделаны в Аргентине. Но ведь оппозиция вроде вояжи туда не совершала и поддержки ради установления демократии в нашей стране не просила! Видимо, Аргентина — это так, для конспирации. Чтоб никто не догадался!

Интересно, запретят ли власти торговать леденцами с названием "5+"? Или их остановит угроза международного скандала с Аргентиной, особенно в преддверии теннисного матча на Кубок Дэвиса между нашими странами?

Возможно, белорусские власти ответят на конфетный пиар оппозиции своей пропагандистской гастрономией. Недавно пивзавод "Крыніца" выпустил новое крепкое пиво "Александрыя", в названии которого многие увидели политический намек. Правда, это довольно далекая ассоциация. Нужно что-нибудь более доходчивое: например, "пряники президентские" или "халва президентская".

Однако хорошее название — это полдела. Нужно, чтобы пищевики сделали политический продукт вкусным. Чтобы не было, как у Якуба Коласа в "Новай зямлі". Помните?

*— Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?*
*— Паскудства, брат, і не пытайся!*

*("Белорусские новости".)*

